ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№49**
**(2555)**

4 снежня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

ПАМЯЦІ АЛЯКСАНДРА АХОЛА-ВАЛО

## БЫВАЙ, ЧАЛАВЕК СТАГОДДЗЯ!



15 верасня гэтага года, на 98-м годзе жыцця, памёр вядомы фінскі мастак, вучоны, пісьменнік Аляксандр Ахола-Вало. Памёр у Швецыі, куды прыязджаў у маёнтак сваёй другой жонкі-шведкі (памерла шмат год таму), каб убачыць, як ідзе работа па рэстаўрацыі і будаўніцтву памяшканняў школы. Гэта была апошняя мара Аляксандра Пятровіча: стварыць мастацкую школу для дзяцей! Толькі застанецца здзіўляцца, якія сілы падхоплівалі гэтага святога старца з белымі доўгімі валасамі і белай барадою, што, як "прыбалтыйскі лебедзь" (так яго называлі ў Швецыі і Фінляндыі), за чатыры гады да смерці перасягнуў некалькі дзяржаўных межаў, каб убачыць яшчэ раз той знакаміты шлях "з варагаў у грэкі", які ён праплыў на лодцы ў 20-гадовым узросце. У нас, у Мінску, Аляксандр Пятровіч апошні раз быў у 1994 годзе, калі прыехаў на міжнародны кангрэс па запрашэнню Адама Мальдзіса. Можа паказацца дзіўным, але так: А. Ахола-Вало лічыў Беларусь сваім другім домам. А пачыналася ўсё з 1919 года, калі малады рабочы-трубачыст з Петраграда вырашыў удзельнічаць у знакамітым паходзе Першай коннай арміі на Варшаву. Ідэі сусветнай рэвалюцыі назаўсёды вызначылі накіраванасць жыцця і творчасці мастака-петуценніка: змагацца за лепшую будучыню, за ідэі братэрства, раўнапраўя народаў. На ўсё жыццё запомніў, як польскія ксяндзы гналі іх, маладых рэвалюцыянераў, палкамі.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

З БЕЛАРУСКАГА КНІГАЗБОРУ

## ВЯРТАННЕ ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ ЛАСТОЎСКАГА

Власт... Чалавеку недасведчанаму ў нацыянальнай гісторыі можа падацца, што за гэтым словам хутчэй за ўсё хаваецца нешта таямніча-загадкавае, можа і міфічнае ды яшчэ з нязменным адценнем магутнасці. Асабліва, калі мысліць па-руску, бо "власт" стасуецца як бы з "властью", уладай. Але гэта ж, канечне, адзін з псеўданімаў Вацлава Ластоўскага, пра якога Генадзь Кісялёў некалькі гадоў назад пісаў на старонках "Голасу Радзімы": "На ўсё яго хапала, усюды сказаў важкае слова. Вядомы гісторык, таленавіты публіцыст, адменны пісьменнік, літаратуразнавец. А яшчэ кнігазнавец, лексікограф, журналіст, грамадска-палітычны дзеяч, арганізатар навукі. Усяго так многа — можа што я незнарок апусціў".

Г. Кісялёў стаў адным з першых, хто вярнуў ім В. Ластоўскага сучаснаму чытачу, а рабіць гэта трэба было па той прычыне, што яно не адно дзесяцігоддзе замоўчвалася. Не ў апошнюю чаргу таму, што ў свой час В. Ластоўскі ўваходзіў у склад урада Беларускай Народнай Рэспублікі і нават узначальваў Раду міністра[illegible]Р, а таксама з'яўляўся членам партыі беларускіх эсэраў. [illegible]эчы, усё гэта яму і адгукнулася. У 1930 годзе В. Ластоўскага пазбавілі звання акадэміка, выслалі на пяць гадоў у Саратаў. Другі раз рэпрэсіравалі ў 1937-м, а 23 студзеня 1938 года расстралялі. Рэабілітавалі толькі 10 чэрвеня 1988-га.

Вельмі шмат дзеля аднаўлення справядлівасці ў дачыненні да В. Ластоўскага, высвятлення асобных абставін яго жыцця і шматгра[illegible]й дзейнасці зрабіў Язэп Янушкевіч, дзякуючы якому ў серыі [illegible]ы славутыя землякі" з'явіўся нарыс "Неадменны сакратар Адраджэння". Я. Янушкевіч парупіўся, каб як мага лепш сабраць і творчую спадчыну гэтага выдатнага Адраджэнца, а ў выніку кніга В. Ластоўскага "Выбраныя творы" папоўніла

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Беларусачка.

Фота Валерыя БЫСАВА.

ЯЗЭП ПІЛСУДСКІ Ў МІНСКУ

## ХРОНІКА АДНАГО ВІЗІТУ

За амаль дзесяць стагоддзяў гісторыі беларускай сталіцы яе наведала велізарная колькасць палітычных, грамадскіх, культурных дзеячаў з самых розных краін, напэўна, з усіх кантынентаў планеты. Толькі іх пералік заняў бы не адзін дзесятак старонак. Але не кожны візіт быў апісаны гісторыкамі, і праз гэта не стаў вядомы шырокай публіцы. Напрыклад, да сённяшняга часу "белай плямай" у беларускай гістарыяграфіі застаецца візіт кіраўніка Польшчы Язэпа Пілсудскага, які 18—19 верасня 1919 года наведаў Мінск. З дапамогай тагачасных гарадскіх газет і некаторых польскіх архіўных крыніц нам удалося амаль поўнасцю аднавіць карціну знаходжання "начальніка дзяржавы" ў акупіраваным горадзе.

1919 год. Ідзе польска-савецкая вайна. Кіраўнік Польшчы Язэп Пілсудскі, які распрацоўваў у гэты час праект федэратыўнай Польшчы, вырашыў нанесці візіт у "сэрца Беларусі" — Мінск, які 8 жніўня ў выніку паспяховага наступу быў заняты польскімі войскамі. Крыху больш чым праз месяц, 18 верасня ўвечары, бронецягнік Пілсудскага прыбывае ў горад, дзе ён меў намер прыняць удзел ва ўрачыстасцях з нагоды яго заняцця. Як паведамлялася ў газеце "Минский курьер", 18 верасня "Менск з самага ранку прыняў святочны выгляд: усе будынкі аздоблены сцягамі, зелянінаю, транспарантамі. Усюды бачыліся партрэты Начальніка Дзяржавы. Шмат будынкаў і памяшканняў асабліва выдзяляліся пекнасцю і эфектнасцю сваіх упрыгожванняў, а вуліцы горада напоўніліся святочна настроеным натоўпам — тутака былі людзі ўсіх нацыянальнасцей, рознага стану і становішча...".

Акрамя афіцыйных акупацыйных улад да сустрэчы рыхтаваўся і Часовы беларускі нацыянальны камітэт. 16 верасня БНК правёў разам з начальнікам Мінскай акругі У. Рачкевічам адмысловае пасяджэнне, дзе было вырашана, што камітэт прыме актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, у прыватнасці, яго старшыня А. Прушынскі (А. Гарун) выступіць на пасяджэнні ў Шляхецкім доме.

Прыезд Пілсудскага чакаўся а 9-й гадзіне раніцы, але цягнік спазніўся і прыехаў толькі ў $18^{15}$ вечара. Вось як згадвае гэты момант сустрэчы адзін з польскіх урадаўцаў — К. Рдултоўскі, які прыехаў з Баранавіч: "Разам са старастамі ды мінскімі ўрадаўцамі мы чакалі Начальніка Дзяржавы на вакзале Лібава-Роменскай чыгункі,

(Заканчэнне на 4-й — 5-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

АФІЦЫЙНАЯ ХРОНІКА



25 лістапада Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Павел Шыпук сустрэўся з дэлегацыяй Заканадаўчага Сходу Жагорку Кенеша Кыргызскай Рэспублікі, якая наведала Беларусь з афіцыйным візітам. Адбылася таксама гутарка з Анатолем Малафеевым, Старшынёй Палаты прадстаўнікоў нашай дзяржавы, а таксама сустрэча з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам. Адбыліся перамовы з Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы з П. ШЫПУКОМ.

ГАДАВІНА РЭФЕРЭНДУМУ

### ПАРУШЭННЯЎ НЕ БЫЛО

Трыма санкцыянаванымі пікетаваннямі і двума зусім палярнымі па сваёй накіраванасці мітынгамі адзначылі ў Мінску 23 лістапада прадстаўнікі розных палітычных рухаў Беларусі гадавіну лістападаўскага рэферэндуму 1996 года.

Прыкладна ў 10 гадзін раніцы ад парку імя Горкага да плошчы Парыжскай Камуны накіраваліся калоны колькасцю каля 2 тысяч чалавек. Па ініцыятыве Беларускага патрыятычнага саюза моладзі (БПСМ) на плошчы адбыўся мітынг у падтрымку Прэзідэнта Беларусі і праводзімага ім курсу.

Каля гадзіны дня па ініцыятыве Беларускай асацы... маладых палітыкаў на плошчы Якуба Коласа сабраліся прадстаўнікі апазіцыйных партый і плыняў, якія арганізавана накіраваліся да плошчы Парыжскай Камуны, дзе ўжо завяршыўся мітынг БПСМ. У сваю чаргу, больш 1,5 тысячы новапрыбыўшых на плошчу маніфестантаў выказалі незадаволенасць палітычнай і эканамічн... туацыяй у краіне, а таксама вынікамі лістападаў... рэферэндуму 1996 года.

У гэты ж дзень у розных раёнах Мінска прайшлі пікетаванні, арганізаваныя Беларускім народным фронтам, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй і Мінскай гарадской арганізацыяй Аб'яднанай грамадзянскай партыі. У іх прымалі ўдзел ад 5 да 50 чалавек.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

### БЕЛАРУСКА-БРЫТАНСКІ САВЕТ

Ствараецца Беларуска-брытанскі гандлёва-прамысловы савет.

Як паведамілі ў Міністэрстве знешніх эканамічных сувязей, у пасольстве Беларусі ў Вялікабрытаніі ўжо прайшла сустрэча з зацікаўленымі ў фарміраванні сумеснай структуры кіраўнікамі шэрагу брытанскіх кампаній і ўстаноў. Яны выказалі прапанову аб падпісанні ў якасці асноўнага дакумента мемарандума аб узаемаразуменні па стварэнню савета, а таксама пажаданне, каб у яго ўвайшлі па дванаццаць прадстаўнікоў ад кожнай краіны. Але гэты склад потым будзе расшыраны. Першапачаткова ён будзе складацца з спецыялістаў, занятых у галіне электронікі і тэлекамунікацый, аўтамабілебудавання, лёгкай прамысловасці, фінансавых паслуг, сельскай гаспадаркі і перапрацоўкі сельгаспрадукцыі.

ПРАЕКТЫ

### ЗАКОН АБ ВАДЗЕ

Па ініцыятыве Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі падрыхтаваны праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб забеспячэнні насельніцтва пітной вадой". Гэты дакумент ужо адобраны ўрадам рэспублікі.

Дарэчы, згодна са статыстычнымі данымі і доказамі шэрагу міжнародных арганізацый, урон здароўю насельніцтва ад спажывання недабраякаснай пітной вады сувымерны са стратамі ад стыхійных бедстваў, несрыяльных экалагічных сітуацый, голаду і іншых глабальных фактараў. Што датычыць Беларусі, то спецыялісты ў апошнія гады адзначаюць тут пагаршэнне якасці паверхневых і падземных вод, асабліва ў гарадах і раёнах з высокай канцэнтрацыяй прамысловых прадпрыемстваў, а таксама ў населеных пунктах, размешчаных каля буйных жывёлагадоўчых комплексаў, фермаў, гнаясховішчаў, складоў мінеральных угнаенняў і гаруча-змазачных матэрыялаў.

*"Садружнасць Незалежных Дзяржаў пераживае складаны перыяд развіцця. Не адмаўляючы ролі аб'ектыўных цяжкасцяў, трэба прызнаць, што галоўныя прычыны крызісу СНД носяць суб'ектыўны характар: не ўсе кіраўнікі былых савецкіх рэспублік зацікаўлены ў станаўленні Садружнасці ў якасці эфектыўна дзеючага міждзяржаўнага аб'яднання.*

*Мэты, якія былі абвешчаны ў 1991 годзе ў Пагадненні аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, не дасягнуты, таму што не ўсе яго ўдзельнікі да гэтага імкнуліся з самага пачатку. Гэта датычыць адзінай эканамічнай і мытнай прасторы, агульнай ваенна-стратэгічнай прасторы пад аб'яднаным камандаваннем, адзінай сістэмы транспарту і сувязі.*

*Перакананы, што крызіс СНД, як і развал Савецкага Саюза, не з'яўляецца гістарычна апраўданым і непазбежным. Ва ўмовах, калі міждзяржаўная інтэграцыя становіцца дамінуючай тэндэнцыяй сусветнага развіцця, крызіс СНД — гэта ненармальная з'ява. Я катэгарычна не прымаю падыходу, які зводзіць ролю СНД да механізма "цывілізаванага разводу" былых савецкіх рэспублік. Наадварот, Садружнасць павінна працаваць на стварэнне і на аб'яднанне.*

*Мы, лідэры краін СНД, як адказныя палітыкі, проста абавязаны на маючым адбыцца пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў дамовіцца аб кроках, здольных ператварыць Садружнасць у эфектыўнае рэгіянальнае эканамічнае аб'яднанне. Калі мы гэтага не зробім і будзем працягваць працаваць у ранейшым рэжыме, то праз два-тры гады СНД можа ператварыцца ў дыскусійны клуб, а то і наогул знікнуць як рэальная структура.*

*Упэўнены, што будучыня СНД — у паглыбленні эканамічнай інтэграцыі і стварэнні адзінай эканамічнай прасторы, у каардынацыі палітычных намаганняў, заснаваных на ўзаемнай павазе суверэнітэту, нацыянальных інтарэсаў краін — членаў СНД".*

*(З Заявы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ).*

СУПРАЦЬ НАРКАБІЗНЕСУ



Звыш двухсот экспертыз розных канфіскаваных у злачынцаў наркат...ых сродкаў правёў у бы...ым годзе крыміналіст Магілёўскага ўпраўлення ўнутраных спраў Алег КАМКОЎ (на здымку). Усяго год назад ён прыбыў на службу ў міліцыю пасля заканчэння хімфака БДУ, але сваім прафесіянальным падыходам да справы паспеў заваяваць павагу калег.

РЫНАК ПРАЦЫ



Новыя рабочыя месцы створаны на Чачэрскай фабрыцы мастацкіх вырабаў — на адраманатаваных пляцоўках дадаткова адкрыты швейны ўчастак, а традыцыйныя вырабы з саломкі і лазы выпускаюцца ў расшыраным асартыменце. Яны карыстаюцца вялікім попытам пакупнікоў суседняй Расіі.

НА ЗДЫМКУ: на новым участку вытворчасці вырабаў з саломкі.

ДЭМАГРАФІЯ

### У СЯМ'І ФЕРМЕРА — ТРОЙНЯ

Адразу трое будучых памочнікаў з'явіліся ў 40-гадовага фермера Аляксея Пускова з вёскі Семакачы Магілёўскага раёна: яго жонка Марыя нарадзіла тройню. Нованароджаныя і маці адчуваюць сябе добра.

Цяпер у сям'і Пусковых ужо пяцёра дзяцей. Старэйшая Алеся вучыцца ў Бабруйскім мастацкім вучылішчы, а Віталій — у мясцовай сельскай школе. Дарэчы, сам Аляксей таксама вырас у шматдзетнай сям'і: трое братоў Пусковых працуюць фермерамі, двое — на прадпрыемствах Магілёва.

У бальніцы магілёўскага вытворчага аб'яднання "Хімвалакно", дзе знаходзілася парадзіха з малымі, гэта другая тройня, прынятая за апошнія дзесяць гадоў. А вось двойні сталі з'яўляцца тут на свет часцей: у мінулым годзе іх было трынаццаць, у гэтым — ужо семнаццаць.

З ФРАНЦУЗСКІМ ДЫПЛОМАМ



Першым выпускнікам Франка-беларускага інстытута ўпраўлення, створанага пры Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны, уручаны дыпломы. Прычым, зусім аднолькавыя з тымі, якія неўзабаве будуць выдаваць выпускнікам Авернскага універсітэта г. Клермон-Феран у Францыі. Гомель з гэтым горадам звязваюць 20-гадовыя дружба і пабрацімскія адносіны. А створаная франка-беларуская вышэйшая навучальная ўстанова з узаемнай стажыроўкай студэнтаў — яшчэ адзін удалы сумесны праект. Сёння яго студэнтамі ў Гомелі з'яўляюцца каля сотні студэнтаў універсітэта, якія прайшлі тры адборачныя туры. Палавіна з іх у студзені будучага года паедзе на вучобу ў Францыю.

НА ЗДЫМКУ: студэнтка пятага курса эканамічнага факультэта універсітэта, Вольга МУРАТАВА якая атрымала ў ліку першых французскі дыплом.

НА ШАЛЯХ ФЕМІДЫ

### ЗАКРЫЛІ ГАЗЕТУ «СВАБОДА»

У Вышэйшым гаспадарчым судзе разглядаўся іск Дзяржкамдруку аб закрыцці прыватнай газеты "Свабода", якая прадстаўляе ў СМІ інтарэсы апазіцыі. "Свабода" мела 50-тысячны тыраж і выходзіла тры разы на тыдзень.

Іск Дзяржкамдруку засноўваўся на некалькіх сваіх жа папярэджаннях, накіраваных на адрас "Свабоды" Дзяржкамдрукам, а таксама на адным папярэджанні пракуратуры. У прыватнасці, за асобныя публікацыі "Свабода" атрымлівала папярэджанні аб парушэнні артыкула 5 Закона аб друку — за раскрыццё тайны следства па справе эксбанкіра Т. Віннікавай, за публікацыю звароту Беларускай вызваленчай арміі, які быў расцэнены як заклік да гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу, за публікацыю прозвішчаў суддзяў, што судзілі дэманстрантаў у 1996 годзе, і інш. 19 лістапада "Свабода" атрымала яшчэ два папярэджанні з Дзяржкамдруку за нядаўнія публікацыі, якія, на думку дзяржаўнага органа, распальваюць сацыяльную варожасць у грамадстве, хоць гэтыя папярэджанні судом і не былі прыняты пад увагу.

Суд пастанавіў прызнаць несапраўдным пасведчанне аб рэгістрацыі "Свабоды" і спыніць выпуск газеты.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

ЗАЛАТОГА медаля і дыплома за высокія тэхнічныя дасягненні на 53-м Міжнародным кірмашы, які адбыўся ў балгарскім горадзе Плоўдзіў, удастоены Мінскі трактарны завод. Першы такі ж медаль быў уручаны МТЗ на леташнім кірмашы.

ЗГОДНА з інфармацыяй, атрыманай у Навукова-даследчым інстытуце статыстыкі, чакаемая працягласць жыцця беларусаў склала ў 1996 годзе 68,6 года (63 гады — у мужчын і 74,3 года — у жанчын).

Менш за ўсё, як сведчыць статыстыка, жывуць мужчыны ў сельскай мясцовасці — усяго 60,4 года (у горадзе — 64 гады).

БЕЛАРУСКІ дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка адзначыў сваё 75-годдзе. Цяпер тут займаюцца 14,5 тысячы студэнтаў, а за ўвесь час свайго існавання са сцен педуніверсітэта выйшла больш за 100 тысяч спецыялістаў.

ПАГАДНЕННЕ аб супрацоўніцтве паміж БДУ і Праграмай развіцця ААН падпісалі рэктар універсітэта Аляксандр Казулін і кіраўнік Прадстаўніцтва ААН у Беларусі Павел Крал. Гэтым дакументам прадугледжваецца рэалізацыя сумеснага праекта "Інтэрнет — БДУ", па якім на універсітэце будзе створаны спецыяльны камп'ютэрны клас з выхадам у сістэму Інтэрнет.

ВОСЕМ ГОД пазбаўлення волі атрымаў па рашэнню Кобрынскага раённага суда грамадзянін Бельгіі Віле Соліе. 1-га ліпеня двухпавярховы аўтобус, у якім група чарнобыльскіх дзяцей ехала на аздараўленне ў Бельгію, на поўнай скорасці вылецеў у кювет і перакуліўся. Чацвёра дзяцей загінулі, астатнія атрымалі розныя цяжкасці траўмы. Вінаватым у гэтым трагічным здарэнні прызнаны вадзіцель аўтобуса Віле Соліе.

БІСКУП Аляксандр Кашкевіч асвяціў касцёл у вёсцы Азёры Гродзенскага раёна, пабудаваны на ахвяраванні парафіян з дапамогай мясцовага калгаса. Тры гады назад у фундамент касцёла быў закладзены першы камень, асвячоны папам рымскім Янам Паўлам ІІ.

# КЛОПАТ АБ ЗДАРОЎІ ЖАНЧЫНЫ ЦІ...

Беларуская асацыяцыя універсітэцкіх жанчын правяла "круглы стол" на тэму: "Праблема аборта: свабода асобы, інтарэсы дзяржавы і маральны выбар". Апошнім часам рэзка ўзрасла цікавасць беларускага грамадства да гэтай праблемы. Даная сустрэча — своеасаблівая рэакцыя на семінар па праблеме абортаў, які праходзіў 16 кастрычніка і быў арганізаваны прадстаўнікамі праваслаўнай царквы і некаторымі дзяржаўнымі структурамі, дзе было выказана меркаванне аб неабходнасці ўвесці ў краіне забарону на аборты. Калі дадаць да гэтага тэндэнцыйныя, на думку ўдзельнікаў, артыкулы на гэтую тэму, што з'явіліся апошнім часам у дзяржаўнай прэсе, узнікае ўражанне, што такім чынам грамадская думка рыхтуецца да прыняцця адпаведнага заканадаўчага акта.

У дакладзе кандыдата філасофскіх навук Алены Гапавай, спецыяліста па гендэрных даследаваннях, было сказана, што любая забарона на аборты практычна адразу аб'яўляе жанчын злачынцамі, ад якіх трэба абараняць іх уласных дзяцей, і тым самым пазбаўляе іх права вырашаць, калі і колькі раджаць. Гэта зручная ідэалогія, таму што яна адцягвае ўвагу грамадскасці ад сацыяльнай сферы, якая развальваецца, мізэрных дапамог, дарагіх лякарстваў і ад таго факта, што рак шчытападобнай залозы ў беларускіх дзяцей у параўнанні з 1986 годам вырас у 40 разоў. У той жа час забарона абортаў — гэта тая палітыка, з дапамогай якой дзяржава можа дабіцца іміджу абаронцы маралі, не ўдарыўшы пры гэтым пальцам аб палец. Праблема абортаў падаецца на інфармацыйны спажывецкі рынак у пэўнай "упакоўцы", у нас гэтая ўпакоўка прыняла вобраз выміраючай нацыі, і гэта зразумела: у 1997 годзе ў Беларусі смяротнасць перавысіла нараджальнасць на 30 тысяч чалавек.

Яшчэ адна "ўпакоўка", у якой падаецца ідэя забароны абортаў, — клопат аб жанчыне на дзяржаўным узроўні. Жанчына з дзіцем становіцца своеасаблівай персаніфікацыяй радзімы, яе ўзводзяць на п'едэстал, і тады патрэбы і ідэі нацыі вельмі лёгка абвясціць значна больш важнымі, чым індывідуальныя правы гэтай самай жанчыны.

Як было адзначана на семінары, сусветны вопыт паказвае, што калі ў грамадстве па якіх-небудзь прычынах пачынаюць мяняцца адносіны да праблемы абортаў, гэта, як правіла, сведчыць аб пачатку пэўнага руху ў бок жорсткасці існуючага рэжыму. Праблема аборта — праблема палітычная, якая вызначае, хто мае ўладу ў грамадстве, а значыць, вырашае, да якой ступені распасціраецца асабістая свабода чалавека. Аднак для Беларусі аборт — гэта яшчэ і сацыяльная праблема, і перш чым прад'яўляць да сваіх грамадзян тыя ці іншыя патрабаванні, дзяржава павінна стварыць умовы, пры якіх гэтыя патрабаванні могуць быць выкананы. У нас жа не існуе ні дзяржаўнай праграмы планавання сям'і, ні дзяржаўнай праграмы падтрымкі мацярынства. Акрамя таго, калі дзяржава не можа забяспечыць надзейныя, бяспечныя і эканамічна даступныя сродкі кантрацэпцыі і навучыць іх выкарыстоўваць, яна не мае права забараняць аборты. У Англіі жанчына траціць на кантрацэптывы ўсяго адзін долар у месяц, астатнія тры за яе даплачвае дзяржава. Беларуская жанчына, якая вырашыла выкарыстаць кантрацэптывы, павінна заплаціць за іх чатыры з паловай долары з уласнай кішэні. Як правіла, нашы жанчыны аддаюць перавагу таму, каб траціць гэтыя грошы на каўбасу, а аборт зробіць бясплатна. Зрэшты, наша дзяржава клапоціцца не пра бяспечны секс, а пра павышэнне нараджальнасці. Але аборт — люстэрка дзяржаўнай палітыкі, і калі дзяржава лічыць, што нараджальнасць трэба павышаць, то яна павінна стварыць умовы, пры якіх яшчэ адно дзіця не разглядаецца, як лішні рот.

Не варта забываць і пра тое, што праблема аборта — гэта яшчэ і праблема асабістай свабоды, таго, наколькі жанчына вольная распарадзіцца сваім уласным целам.

Звяртае на сябе ўвагу і той трывожны факт, што, па словах удзельнікаў "круглага стала", апошнім часам былі рэзка згорнуты агульнаадукацыйныя праграмы ў галіне планавання сям'і.

Урачы, якія прысутнічалі на сустрэчы, расказалі, што апошнім часам жанчыны, будучы адзіным карміцелем у сям'і, не маюць магчымасці пайсці ў водпуск па цяжарнасці да самага нараджэння дзіцяці. Будучыя маці недаядаюць, а так патрэбныя вітаміны і мікраэлементы ім проста недаступныя.

Забарона абортаў для Беларусі можа абярнуцца рэзкім успleскам мацярынскай і дзіцячай смяротнасці, ростам сацыяльнага сіроцтва, з'яўленнем новых дзіцячых дамоў і многімі іншымі праблемамі, якія мы сабе яшчэ проста дрэнна ўяўляем.

Нягледзячы на тое, што сёння праблема абортаў толькі абмяркоўваецца, цырkулюючыя ў грамадстве чуткі ўжо прынеслі свой вынік: па словах акушэра-гінеколага Жанны Дзікушынай, якая прысутнічала на сустрэчы, апошнім часам сярод яе пацыентак пачалася сапраўдная паніка: чутка, што аборты забаронены, прывяла да таго, што жанчыны, якія падазраюць, што яны цяжарныя ці цяжарныя на ранніх тэрмінах, сталі звяртацца па пытаннях спынення цяжарнасці ў прыватныя медыцынскія фірмы ці да падазроных урачоў. Незразумелыя сродкі, якія, па словах урачоў, што выпісваюць іх, прадухіляюць ці спыняюць цяжарнасць, пры досыць высокай цане, указанага эфекта не аказваюць, а наадварот, наносяць шкоду жаночаму арганізму. І калі пасля гэтага жанчына вырашае ўсё-такі цяжарнасць захаваць, ніхто не дасць ёй гарантый, што дзіця народзіцца нармальным.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

## ПІВА ПЕННАЕ, ПІВА СМАЧНАЕ



# *ЗАЛАТЫ ДОЖДЖ*

Сапраўды азалаціўся Лідскі піўзавод.

У Маскве праведзены трэці міжнародны кірмаш "Піўіндустрыя-97". Дзесяткі піваварных прадпрыемстваў з розных краін прывезлі на яго 190 узораў сваёй прадукцыі. Вядомыя дэгустатары, якія павінны былі вынесці ёй прысуд і вызначыць, каму дастануцца 15 залатых медалёў, аддалі перавагу лідчанам. Залатымі медалямі адзначана іх піва "Кароль хмелю", "Лідскае", "Стары замак", "Лідскае класічнае", "Лідскае нетрадыцыйнае", "Прынёманскае". Шэсць вышэйшых узнагарод з пятнаццаці — цудоўна!

— Кірмаш прайшоў вельмі арганізавана і цікава, — расказала начальніца вытворчай лабараторыі прадпрыемства Данута Скрыпко. — Да нашай прадукцыі і ўдзельнікі кірмашу, і масквічы праявілі вялікую цікавасць. Амаль усе пыталіся ў першую чаргу: "Як вам гэта ўдалося?" Ды мы і самі не разлічвалі на такі поспех. Думалі, што, як і з папярэдніх кірмашоў, прывязём два-тры медалі рознай пробы.

А тут усе шэсць самай высокай вартасці.



### КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Яна змешчана ў тоўстым, багата ілюстраваным самаробным томе. Пачынаецца арыгінальна. Пастаўлена пытанне: што агульнага паміж лесапілкай і піўзаводам? Аказваецца — сувязь прамая. Бацька і браты Пупко, надумаўшы арганізаваць вытворчасць, усё добра прадумалі і вырашылі разумна. Лесапілка давала прадукцыю, адходы вытворчасці (кавалкі дошак, апілкі, кара і г. д.) выкарыстоўваліся на паліва піўзаводам. Па-сучаснаму назвалі б такое спалучэнне "безадходнай тэхналогіяй".

Завод і лесапільня пачалі працаваць у 1876 годзе. Завод быў невялічкі — 18 квадратных метраў. Электраэнергію даваў лакамабіль. Для падвозкі грузаў мелі аднаго каня і воз. Палавіну ячменю атрымлівалі з Роўна, хмель — з Валыні, лес быў беларускі.

Да 1939 года завод называўся "Баварыя". У 1940 годзе ўжо на дзве конныя павозкі піва вырабілі ў суткі, а гэта 4 952 гекталітры.

У час вайны завод эксплуатаваўся на знос. Піва не прадавалі, а вывозілі яго ў гітлераўскія вайсковыя часці.

Не дзіва, што ў пасляваенныя гады прадпрыемства адраджалася марудна. Нават у 1957 годзе, калі я прыехаў у Ліду на работу, на заводзе было шмат ручной працы, за механізацыю толькі браліся сур'ёзна. Але калектыў працаваў, даваў якасную прадукцыю, якая карысталася попытам. У той час умацавалася кіраўніцтва, прыйшлі адукаваныя інжынерна-тэхнічныя работнікі, спецыялісты. Выраслі цэлыя дынастыі працаўнікоў. Тыя гады можна лічыць першым рыўком да стварэння сучаснага піўзавода.

### ДРУГІ РЫВОК

У пераважнай большасці ўсё развіваецца рыўкамі. Асабліва там, дзе не хапае сродкаў на мадэрнізацыю вытворчасці.

— І ў нас так атрымалася, — разважала Данута Баляславаўна. — Трэба было прымаць меры.

Выхад знайшлі ў стварэнні акцыянернага таварыства закрытага тыпу "Лідскі піўзавод". 4 кастрычніка мінулага года заключылі дагавор з аўстрыйскай фірмай "Эгенберг інтэрнацыянал". Яна ўкладвае сродкі ў тэхналагічную вытворчасць. Пабудаваны новы цэх і лінія разліву піва.

3 мая гэтага года пачалі па новай замежнай тэхналогіі вырабляць каронная піва — "Кароль хмелю". Яно адрозніваецца пеннасцю, адсутнасцю прымесяў. Чыстае, светлае, смачнае. У мінулым годзе асвоены выраб "Лідскага юбілейнага", "Лідскага нетрадыцыйнага" з дабаўкай жэньшэневай настойкі, "Чорнага прынца".

Усе гэтыя меры дазволілі не толькі ўдасканаліць вытворчасць, выйсці па якасці піва на ўзровень сусветных стандартаў, але палепшыць матэрыяльнае становішча калектыву. Сярэдняя зарплата прыкметна павялічылася, за месяц дасягнула 4 585 000 рублёў.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**



**НА ЗДЫМКАХ:** у новым цэху разліву піва; "залатая" прадукцыя завода; начальнік вытворчай лабараторыі Данута СКРЫПКО.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# БЕЛАРУСКІЯ «СПАТКАННІ» Ў ЭСТОНІІ

*"Беларусь! Ты далёка-далёка...*
*Не разблытаць жыццёвы клубок...*
*Я стаю, а па небу аблокі,*
*Быццам думкі плывуць у твой бок".*

Гэтымі паэтычнымі радкамі з верша Уладзіміра Дзехцерука, які жыве і працуе ў г. Ківіылі ў Эстоніі, хачу я пачаць свой расказ аб тым, як жывуць і аднаўляюць страчаныя беларускія карэнні, развіваюць нацыянальную культуру нашы суайчыннікі ў Эстоніі.

А пабываць у Эстоніі мне давялося з вельмі добрай нагоды. Беларускі культурны цэнтр "Бацькаўшчына", якім кіруе Ніна Савінава, разам з Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь 10—11 кастрычніка ладзілі традыцыйнае (сёлета ўжо чацвёртае) свята-сустрэчу беларусаў Эстоніі "Спатканне", на якое быў запрошаны наш вядомы ансамбль "Сябры" пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Анатоля Ярмоленкі. Поўныя залы як у Таліне, так і ў Нарве, пранікнёна-душэўная атмасфера захаплення беларускім мастацтвам, якая ў іх панавала, усё гэта напаўняла душы беларусаў, што прыехалі на гэтыя "Спатканні" з розных куточкаў Эстоніі, пачуццём гордасці за сваю Бацькаўшчыну, а той шквал апладысментаў, якім удзячная публіка, стоячы, вітала знакаміты калектыў, лепшае таму пацверджанне.

Атмасфера беларускага свята, узнёсласці адчувалася ўжо перад канцэртам. У фае працавала выстава-продаж беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Сваё майстэрства пляцення з саломкі дэманстраваў прысутным народны майстар з Беларусі Аляксандр Грэсь. Карэспандэнты газет, радыё, тэлебачання бралі інтэрв'ю ў арганізатараў і ўдзельнікаў імпрэзы. Хваляваліся самадзейныя артысты з беларускіх суполак, якія павінны былі выступіць разам у адным канцэрце з такім тытулаваным калектывам, як "Сябры".

Дарэчы сказаць, вельмі ўдала спалучыўся ў канцэрце дуэт у складзе самадзейнай спявачкі Ларысы Маёравай і кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікалая Сацуры, які акампаніраваў ёй на баяне.

Трэба зазначыць і той факт, што тут, у Эстоніі, падчас свята беларускай культуры плённа працавала тэлевізійная група з Беларусі ў складзе Галіны Дзятлоўскай, Таццяны Агафонавай і Уладзіміра Дзёмкіна.

З кожным годам традыцыйнае свята беларусаў Эстоніі "Спатканне" прыцягвае да сябе ўсё больш і больш не толькі беларусаў, а і людзей самых розных нацыянальнасцей, што сведчыць аб непадробнай цікавасці да Беларусі, яе культуры, мастацтва.

Згодна з данымі Міністэрства замежных спраў Эстоніі, на тэрыторыі рэспублікі пражывае зараз 23 тысячы беларусаў. Для маленькай Эстоніі з насельніцтвам 1 462 130 чалавек, гэта не так і мала — 1,5 працэнта.

У 1989 годзе стварылася Кохтла-Ярвеская згуртаванне беларускай культуры, што з цягам часу перарасло ў аб'яднанне беларусаў, якое назвалася "БЭЗ" (Беларуска-эстонскае згуртаванне). Дарэчы, у назве "БЭЗ" ёсць і іншы сэнс: быццам гронкі бэзу ўпрыгожваюць куст "БЭЗ"у суполкі беларусаў з Кохтла-Ярве, Йыхві, Сомпа, Ківіылі, Ору, Сіламяе, Нарве...

Беларускія суполкі прапагандуюць і развіваюць не толькі беларускую культуру, але і эстонскую ў Беларусі. Добра прымалі ў Гомелі эстонскі маладзёжны хор з Пюсі, гастролі якога наладзілі нашы суайчыннікі. Беларускія нацыянальны-культурныя аб'яднанні ў Эстоніі маюць добрыя стасункі са сваімі суайчыннікамі з прыбалтыйскага рэгіёна, С.-Пецярбурга, карыстаюцца аўтарытэтам і павагай сярод простых людзей і ўладных структур Эстоніі. Некалькі прыкладаў. Кіраўнік Беларускага культурнага цэнтра ў Таліне Ніна Савінава з'яўляецца рэдактарам і вядучай беларускай праграмы "Бацькаўшчына", якая мае 45 хвілін эфіру ў тыдзень на хвалях эстонскага дзяржаўнага канала "Радыё-4", старшыня беларускай суполкі ў Йыхві Маргарыта Астраумава працуе дырэктарам мастацкага вучылішча, з'яўляецца дэпутатам гарсавета, старшынёй "круглага стала" нацыянальна-культурных аб'яднанняў рэгіёна.

Так, беларусаў тут паважаюць за іх шчырасць, таленавітасць, працавітасць. Але і праблемы таксама існуюць. Маюцца значныя цяжкасці ў атрыманні грамадзянства Эстонскай Рэспублікі, забеспячэнні правоў на нацыянальна-культурнае развіццё. Таму, зыходзячы з неабходнасці пошуку магчымых шляхоў дапамогі ў вырашэнні гэтых праблем, Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у дні "Спаткання" арганізавала сустрэчу беларускай дэлегацыі, у складзе якой знаходзіўся і намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Іван Яновіч, з міністрам міжнацыянальных зносін пры ўрадзе Эстоніі Андрай Вейдэман, дырэктарам палітычнага дэпартамента Міністэрства замежных спраў Паўлам Лейтэнсам і куратарам Беларусі данага дэпартамента Марге Мардзісалу, дзе адбылася зацікаўленая размова аб рэалізацыі правоў нацыянальнах меншасцей Эстоніі і Беларусі. З абодвух бакоў была выказана надзея на далейшае супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі ў гэтым накірунку.

У заключэнне хочацца сказаць, што як бы ні цяжка жылося ўсім нам сёння, але дзяржава думае і клапоціцца аб сваіх кроўных братах, якія знаходзяцца за межамі радзімы. Як прыклад можна прывесці той факт, што падчас "Спатканняў" наша дэлегацыя перадала беларускім суполкам у Эстоніі каля тысячы экземпляраў падручнікаў для беларускіх нядзельных школ, дзіцячай мастацкай літаратуры, камплект беларускіх народных шумавых інструментаў, камплект галаўных убораў для дзіцячага мастацкага калектыву. Калі пісаўся гэты артыкул, была заключана дамова з канцэрнам "Беларускія мастацкія промыслы" на выраб 17 камплектаў беларускага сцэнічнага адзення для фальклорнага калектыву беларуска-эстонскага згуртавання з г. Йыхві, і да снежня бягучага года заказ будзе выкананы. Гэта прыклад толькі па Эстоніі.

Настойліва рэалізуецца комплексная дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", прынятая нашым урадам яшчэ ў 1993 годзе. Распрацоўваецца канцэпцыя "Беларуская дыяспара", якая будзе з'яўляцца састаўной часткай дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі Рэспублікі Беларусь і рэалізоўвацца органамі дзяржаўнай улады і кіравання.

Беларусы Эстоніі спадзяюцца і ўласнымі намаганнямі, і з дапамогай дзяржавы захаваць сваю нацыянальную своеасаблівасць. Гэта патрэбна ім, каб не застацца адрэзаным кавалкам, гэта трэба Эстоніі дзеля захавання міру і павагі паміж людзьмі розных нацыянальнасцей, якія жывуць там, гэта трэба і Беларусі.

**Любоў БАЛАЎНЁВА,**
**кансультант аддзела па справах нацыяльнальнасцей Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.**

---

Першым прамоўцай быў біскуп Лазінскі, а за ім ужо выступалі архіепіскап, татарскі мула, старшыня габрэйскай абшчыны Е. Хургін, старшыня "Польскай Рады Мінскай Зямлі" І. Каневіч і шмат іншых, у тым ліку трое ад беларусаў, у прыватнасці, А. Прушынскі, які са спадзяваннем адзначыў, што "...усе беларускія землі будуць аб'яднаны ў адзіны дзяржаўны арганізм". Усе выступаючыя былі з цікаўнасцю выслуханы, але ж сапраўднай кульмінацыяй трэба лічыць прамову Пілсудскага на беларускай мове, у якой ён выказаў спадзяванне, што Беларусь "як асобная адзінка, зойме належнае ёй месца ў сусветным ліку дзяржаўных народаў".

Пасля афіцыйнай часткі Я. Пілсудскі прымаў у сябе тых, хто жадаў персанальна з ім пагутарыць. А на ганаровым абедзе наогул адбылося даволі цікавае здарэнне. Старшыня Польскага камітэта Генрык Грыбоўскі паставіў перад Пілсудскім срэбраны кухаль, напоўнены віном, просячы выпіць яго за гонар Вялікага Княства Літоўскага. Апошні пачаў адмаўляцца, кажучы, што келіх занадта вялікі, і запытаў, адкуль ён. Грыбоўскі адказаў: "Няхай спадар начальнік вып'е, а мы паглядзім". Пасля таго, як посуд апусцеў, аказалася, што ў сярэдку было выгравіравана пасвяшчэнне, што ён быў ахвяраваны Тадэвушу Рэйтану ад паслоў Навагрудскай зямлі" (Т. Рэйтан — вядомы грамадскі дзеяч часоў Рэчы Паспалітай XVIII стагоддзя).

А 20-й гадзіне пачаўся ўрачысты вечар у гарадскім тэатры. Паводле паведамлення газеты "Звон", "...вечар быў поўным трыумфам вядомага беларускага хору сп. Тэраўскага. Перад поўным тэатрам святочна настроенай публікі было выканана шмат спеваў, полек, музычных кампазіцый".

Кульмінацыйным момантам была дэкламацыя беларускага верша маленькай дзяўчынкай, да якой пасля выступлення выйшаў з залы Пілсудскі і падараваў букет кветак. А выкананне беларускага гімна "Краіна родная" наогул выклікала "мора кветак і гром апладысментаў".

Апоўначы Я. Пілсудскі мусіў ад'язджаць у Варшаву. Вось як апісвае "Минский курьер" гэты ад'езд: "...а 12-й гадзіне ночы пасля вячэры ў Камісара Акругі Ул. Рачкевіча, Начальнік Дзяржавы ў суправаджэнні свайго атачэння адбыў на Віленскі вакзал. На пляцу перад вакзалам яго сустракалі добраахвотнікі вольнапажарнага таварыства з аркестрам музыкі, пры запаленых паходнях.

На пероне вакзала пашыхтавана ганаровая варта з аркестрам музыкі, Начальнік Дзяржавы, шчыра развітаўшыся з прадстаўнікамі вайсковай і цывільнай улады, якія яго праводзілі, зайшоў у вагон.

З пляцоўкі вагона ён у цёплых выразах падзякаваў за аказаны яму ў Мінску прыём. Пры гуках польскага гімну цягнік павольна адышоў ад станцыі". 21 верасня бронецягнік прыбыў у Варшаву.

Вось гэтак праходзіў першы пасля падзелаў у XVIII стагоддзі Рэчы Паспалітай візіт на Беларусь галавы адроджанай Польшчы, які выклікаў марныя, як высветлілася ў будучыні, спадзяванні ў беларускіх патрыятычных колах.

**Віктар АСТРОГА,**
**навуковы супрацоўнік аддзела ваеннай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі.**

---

## ГАРТАЮЧЫ «ВЕСЦІ АНМ»

# АБ ДЫЯСПАРАХ БЕЛАРУСІ І СВЕТУ

УБАЧЫЎ свет трэці нумар штоквартальнага часопіса "Весці АНМ. Нацыянальныя меншасці на Беларусі і ў свеце", які выдаецца Міжнароднай акадэміяй вывучэння нацыянальных меншасцей. Гэта міжнародная недзяржаўная арганізацыя была ўтворана ў студзені 1996 года ў г. Мінску вядучымі вучонымі ў галіне вывучэння нацыянальных меншасцей (дыяспар) з Беларусі і замежжа. Як і ў папярэдніх выданнях, вядучае месца на старонках трэцяга нумара часопіса займаюць артыкулы, прысвечаныя недастаткова вывучаным аспектам жыцця нацыянальных меншасцей у розных краінах. Так, артыкул члена-карэспандэнта АНМ Казімежа Косак-Глуўчэўскага з Гданьскага універсітэта (Польшча) прысвечаны складанаму лёсу этнічнай групы кашубаў, што насяляюць узбярэжжа Балтыйскага мора ў цяперашняй Польшчы. Нягледзячы на страту сваёй дзяржаўнасці яшчэ ў пачатку XIII стагоддзя, кашубы здолелі ў іншаэтнічным і іншамоўным атачэнні захаваць сваю мову, у тым ліку літаратурную, нацыянальныя традыцыі, рамёствы. Адраджаецца нацыянальная адукацыя кашубаў. На старонках часопіса змешчаны карты расселення гэтай этнічнай групы, пачынаючы ад XIII стагоддзя да нашых дзён. Артыкул рэктара Народнага універсітэта нацыянальных культур Сяргея Яцкевіча "Лёсы адукацыі нацыянальных меншасцей на Беларусі" прысвечаны высвятленню складаных калізій, што адбываліся з школьніцтвам палякаў, яўрэяў, літоўцаў, украінцаў, латышоў і іншых народаў на беларускай зямлі ў XX стагоддзі.

Шэраг матэрыялаў, змешчаных пад рубрыкай "Старонкі гісторыі", прысвечаны праблеме дэпартацыі народаў і этнічных груп. Гэта не выпадкова. Менавіта 60 год назад, восенню 1937 года, была ажыццёўлена дэпартацыя ўсяго карэйскага насельніцтва (звыш 170 тысяч чалавек) з савецкага Далёкага Усходу ў стэпавыя раёны Сярэдняй Азіі і Казахстана. Уласна гэтай падзеі прысвечаны артыкул першага прэзідэнта Асацыяцыі беларускіх карэйцаў члена-карэспандэнта АНМ Сяргея Тэна. Акадэмік АНМ Эмануіл Іофе з Беларускага педагагічнага універсітэта і дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Селяменяў прысвяцілі свой матэрыял маладаследаваным трэцяй і чацвёртай дэпартацыям насельніцтва Заходняй Беларусі ў 1940—1941 гадах. Артыкул Саасыланы Сіўцавай з Якуцкага дзяржаўнага універсітэта "Дэпартацыя народаў у Якуцію" — своеасаблівы працяг папярэдняга матэрыялу — прысвечаны высвятленню лёсаў дэпартаваных, што апынуліся ў пачатку 1940-х гадоў на сібірскай зямлі. Дарэчы, уласна дэпартацыі з'явіліся адной з прычын утварэння беларускай дыяспары, асабліва што датычыць Поўначы і ўсходу Расіі, а таксама Казахстана. Многія нашы суайчыннікі пасля заканчэння тэрміну дэпартацыі засталіся ў месцах ссылкі на пастаяннае жыхарства.

Выклікае цікавасць і артыкул навукоўца з Львоўскага дзяржаўнага універсітэта Івана Казлоўскага, прысвечаны дэпартацыі ўкраінскага насельніцтва з Польшчы ў 1945—1946 гадах. Выканаўчы сакратар беларуска-індзейскага таварыства Алесь Сімакоў сваім артыкулам "Дэпартацыя апачаў у 1886 г." звяртае ўвагу на універсальнасць з'явы дэпартацыі, характарызуе трагічныя вынікі ўжывання гэтай меры ўладамі "дэмакратычных" ЗША ў дачыненні да аўтахтонных насельнікаў краіны — індзейцаў. Член-карэспандэнт АНМ Вячаслаў Мацюшэнка шляхам аналізу міжнародных пагадненняў XIX—XX стагоддзяў прыходзіць у сваім артыкуле да высновы, што ажыццяўленню дэпартацый у згаданы перыяд у вялікай ступені спрыялі палітыкі. Берлінскі дагавор 1878 года, Лазанскае 1923 года і Патсдамскае 1945 года пагадненні спрычыніліся да буйных дэпартацый насельніцтва і ўтварэння шматлікіх дыяспар у розных краінах. Толькі ў адпаведнасці з Патсдамскім пагадненнем на працягу некалькіх пасляваенных год у краінах Еўропы падвергліся дэпартацыі (прымусоваму перасяленню) да дваццаці мільёнаў чалавек.

Раздзел "Хроніка навуковых падзей" змяшчае інфармацыю аб рабоце міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларуска-польска-літоўскага сумежжа", што адбылася ў чэрвені 1997 года ў гарадах Гродне і Вільнюсе, і польска-беларускай канферэнцыі "Шлях да ўзаемнасці", што прайшла ў ліпені бягучага года ў польскім мястэчку Белавежа і работа якой была прысвечана праблемам беларускай дыяспары ў Польшчы. Дарэчы, аб выніках абедзвюх канферэнцый "Голас Радзімы" ўжо інфармаваў сваіх чытачоў.

Важнае месца часопісам адведзена дзейнасці нацыянальных аб'яднанняў Беларусі. Павінна зацікавіць чытача інфармацыя аб святкаванні 600-годдзя пасялення татараў на беларускай зямлі. Свята "Караван-Байрам", што адбывалася з нагоды гэтай падзеі, набыло, у адпаведнасці з традыцыямі татарскага народа, сапраўды вандроўны характар. На працягу некалькіх ліпеньскіх дзён яго ныя ўдзельнікі "вандравалі" па розных кутках Беларусі, звязаных з гісторыяй татарскага народа. Навагрудак, Іўе, Смілавічы — гэтыя і іншыя мясціны добра знаёмыя беларускім татарам. На старонках часопіса змешчаны таксама фотаздымкі, якія апавядаюць аб гэтай падзеі.

Знойдзе чытач у часопісе і інфармацыю аб рабоце і выніках IV з'езда Беларускага аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і абшчын, які адбыўся 8 чэрвеня 1997 года ў Мінску. Дарэчы, сёння яўрэйскія абшчыны зарэгістраваны і вядуць разнастайную дабрачынную дзейнасць у 21 горадзе нашай краіны.

Безумоўна, не маглі "Весці Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей" пакінуць без увагі і падзеі ўласна акадэмічнага жыцця. У адпаведным раздзеле часопіса змешчана інфармацыя аб выніках III Агульнага сходу акадэміі, які адбыўся ў чэрвені бягучага года ў Гродне. Павінна зацікавіць чытача і інфармацыя аб Народным універсітэце нацыянальных культур, утвораным у пачатку гэтага года ў Мінску Міжнароднай акадэміяй вывучэння нацыянальных меншасцей сумесна з Рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур. Дарэчы, заняткі ва універсітэце адбываюцца па серадах, з 18 гадзін, у добра знаёмым як мінчанам, так і гасцям сталіцы будынку Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Дзверы народнага універсітэта заўсёды адчынены для тых, каму неабыякавыя пытанні гісторыі і культуры дыяспар.

**Сяргей ЯЦКЕВІЧ,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**
г. Брэст.

## З НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# «ТО ТАДЭУШ — ЛЕПШЫ СЯБРА — АЖ З-ПАД МАГІЛЁВА...»

Ратч піша: "Кандидат мирового посредника Оршанского уезда молодой помещик Миткевич, воспитанник С.-Петербургского университета, был деятельным помощником Чудовского; по его приказанию он в марте месяце 1863 года ездил к предназначенному могилевскому воеводе Жверждовскому (Звяждоўскаму. — **Г. К.**) и оттуда в Вильну к Сераковскому, развозил деньги, пакеты и делал заготовления оружия". Віскоўскага Чудоўскі двойчы ў сакавіку пасылаў да Звяждоўскага ў Маскву. "Висковский за Жвеждовским ездил и в Петербург и привез в Горы-Горки целый транспорт штуцеров и револьверов".

І вось доўгачаканы дзень надышоў. Спачатку ўсё складвалася, здаецца, як найлепш. У ноч на 24-е красавіка Тапор-Звяждоўскі з дапамогай студэнтаў, якімі кіраваў Віскоўскі, захапіў Горкі. Яго атрад пасля далучэння некалькіх дзесяткаў студэнтаў значна вырас. З гэтай ударнай, хоць колькасна ўсё яшчэ невялікай, сілай ваявода рушыў на поўдзень у бок Крычава (тады Чэрыкаўскага павета).



На Чэрыкаўшчыне фарміраваў атрад артылерыйскі паручнік Ян Жукоўскі (псеўданім Каса), член рэвалюцыйнай арганізацыі, які напярэдадні — па дамоўленасці — уцёк з часці, што стаяла ў Смаленску. Паводле дыспазіцыі, ён павінен быў захапіць гарматы ў Крычаве, але здзейсніць гэта не ўдалося. Улады даведаліся пра планы інсургентаў. Паўстанцкі атрад, які збіраўся паблізу Крычава, быў рассеяны. З рэшткамі Жукоўскі накіраваўся ў Краснае насустрач Звяждоўскаму. З Жукоўскім быў і ўладальнік Краснага Тадэвуш Чудоўскі. 25 красавіка паўстанцы спыніліся ў лесе Зялёная дубрава паблізу фальварка Ходасава памешчыка Галынскага. Жукоўскі-Каса частаваў сялян гарэлкаю і ўгаворваў далучыцца да паўстанцаў, абяцаючы ўсе даброты і поўную свабоду. Пасля адзін з сялян паказваў, "что в шайке этой он хорошо заметил еще в лесу Зеленой дубравы самого помещика Фаддея Чудовского... Чудовский в Красное с Дубравы следовал с шайкой и угощал ее в своем имении Красном". І яшчэ цікавыя, характэрныя радкі з гэтага дакумента (відаць, адказ на пытанне — чаму ж сяляне не спынілі бунтароў-інсургентаў): "Забрать приходивший в фольварок Ходосов с Яном Косою отряд мятежников крестьяне не могли, во-первых, потому что все были пьяны и, во-вторых, более потому, что крестьяне, кроме небольшой дубины, а иные и без этого, не имея у себя никакого оружия, не решались открывать бой с мятежниками, бывшими тогда вооруженными ружьями со штыками, саблями и револьверами..."

Вядома ж, тут у Ходасаве сялянскія галовы затуманіліся ад выпітага віна і жаданых слоў пра свабоду. Некалькі мужыкоў — пакуль не працвярэзіліся і не адумаліся — нават пайшлі з паўстанцамі. А ў цэлым народ на Магілёўшчыне паўстання не прыняў. У вачах народа гэта быў "панскі мяцеж". На паўстанцкі рух сяляне адказалі сваім рухам — антыпаўстанцкім і антыпамешчыцкім. Той жа Акрэйц піша: "Мужики принялись вязать и отвозить в ближайшие города своих, вчера еще столь грозных, панов. По дорогам тянулись деревенские телеги со связанными помещиками, окруженные толпами крестьян, впрочем невооруженных. Женщин из деликатности не вязали. Барыни обыкновенно шли свободно за телегами. Экономов, свирепствовавших чуть не вчера с батожьем, случалось, и бивали, но не очень".

Вось такі парадаксальны кірунак набылі падзеі (прычым пяро Акрэйца ў даным выпадку занадта мяккае, далікатнае). Уладам гэта было на руку, паколькі дазваляла адным махам пакончыць з мяцяжом і адначасова аслабіць у краі "польскі элемент". Губернскі жандар палкоўнік Сакалоў даносіў у Пецярбург 5 мая: "Преследование крестьянами помещиков-поляков, можно определительно сказать, составляет поголовное движение крестьян, кроме чувства преданности правительству в настоящем случае действует и месть за прежнее крепостное право, которое во зло употребляло большинство помещиков, полевые отработки для помещиков теперь почти оставлены, требовать строгого исполнения их в настоящее время, когда крестьяне заняты перевозкою иногда на повозках войск, караулами по дорогам, мостам от поджогов и охранением собственных домов, решительно невозможно".

Цэлыя хмары сялян ішлі з вайсковымі камандамі, каб памагаць у дзеяннях супраць "мяцежнікаў", а пры нагодзе і чымсьці пажывіцца.

Сітуацыя для паўстанцаў склалася проста адчайная, драматычная. Што было рабіць кіраўнікам?

Звяждоўскі, злучыўшыся з Жукоўскім у Красным, павярнуў адсюль на захад і пераправіўся праз Проню, спаліўшы за сабой паромную пераправу. 30 красавіка, бачачы шматраз[illegible]ю колькасную перавагу царскіх войск і —[illegible] яшчэ важней — непрыхільнасць сялян, ваявода распусціў сваё воінства. Значная частка паўстанцаў (звыш 100 чалавек) здалася ўладам у Прапойску (цяпер Слаўгарад). Частку вылавілі па лясах мужыкі. Палонных чакалі турмы і высылкі. Звяжд[illegible]му і Жукоўскаму ўдалося ўцячы, і яны д[illegible]чалі потым на тэрыторыі Польшчы.

А што ж наш герой? З ім здарылася горшае. Па дарозе да Проні ён адбіўся ад асноўнага атрада. Яго спадарожнік потым расказваў:

— Мы з Чудоўскім, каб злучыцца з партыяй Тапара, хацелі перайсці Проню каля вёсак Ліцягі — Рудня. Мост быў спалены. Шукаючы броду, наткнуліся на вайсковую каманду з сялянамі. Знаёмы афіцэр дазволіў быў нам ісці, але салдаты самі абшукалі фурманку. Там былі зброя і набоі. Мужыкі і салдатня кінуліся на нас. Чудоўскі бараніўся і быў забіты. Я зваліўся аглушаны...

Адбылося гэта, відаць, 29—30 красавіка 1863 года (29-га быў спалены той мост ці паром).

Так загінуў сябра Дуніна-Марцінкевіча і Серакоўскага, актыўны дзеяч культурна-грамадскага жыцця ўсходняй Беларусі сярэдзіны мінулага стагоддзя. Нялюдская, пакутніцкая смерць ад рук тых, за чыю свабоду ён так шчыраваў, у чыю будучыню верыў!..

У канцы 1864 года, калі страсці-жарсці суняліся і жыццё ўвайшло ў звычайныя берагі, магілёўскі губернатар Беклямішаў, адказваючы на запытанне аб кіраўніках мясцовага паўстання, назваў камандзіраў атрадаў і дадаў: "Сверх того главным двигателем восстания в Могилевской губернии был помещик Чериковского уезда Фаддей Чудовский, убитый крестьянами во время следования за Горецкою мятежническою шайкою". У дакуменце ішла размова пра канфіскацыю маёмасці паўстанцкіх камандзіраў. Губернатар лічыў: "Одинаковой с начальниками шаек ответственности подлежал бы, по моему мнению, и помещик Фаддей Чудовский как бывший главным действующим лицом и организатором восстания в Могилевской губернии".

Маёнткі Чудоўскага канфіскуюцца. Дзе ён пахаваны — мы не ведаем. Хацелася, каб гэтым заняліся мясцовыя краязнаўцы.

Ён заслугоўвае нашай памяці.

Старонкі гэтага неардынарнага жыцця з такім балючым, трагічным акордам у канцы дадаюць нешта і да нашых сённяшніх роздумаў аб няпростых, пакручастых шляхах айчыннай гісторыі.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: капітан генеральнага штаба Людвік ЗВЯЖДОЎСКІ, вайсковы кіраўнік паўстання 1863 года на Магілёўшчыне.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 48.**

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

серыю "Беларускі кнігазбор", распрацаваную ў Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Да месца нагадаць, што гэта трэцяя кніга, якая выйшла ў згаданай бібліятэцы. Раней пабачылі свет аднатомнікі Яна Чачота і Максіма Багдановіча. Зусім не прымяншаючы іх значэнне, нельга не засведчыць, што з'яўленне "Выбраных твораў" В. Ластоўскага — важная падзея ў культурным і грамадскім жыцці Рэспублікі Беларусь. Не будзем жа забываць, што дагэтуль творы Я. Чачота ўсё ж выдаваліся асобнай кнігай, а ў дачыненні да М. Багдановіча гэта рабілася неаднойматэрыялы — узнаўленне падзей, што мелі месца ў вёсцы Стары Пагост колішняга Дзісенскага павета і пабудаваны на аўтабіяграфічным матэрыяле, хоць, безумоўна, В. Ластоўскі не абмяжоўваецца толькі асабістымі згадкамі. І, канечне ж, багатую спажыву для роздуму даюць "Мае ўспаміны аб М. Багдановічу" і "Успаміны пра Янку Купалу". Цікавыя яны тым, што дазваляюць глыбей і паўней адчуць, кім былі два класікі нацыянальнай літаратуры на пачатку свайго творчага шляху.

Аб шматграннасці творчай дзейнасці В. Ластоўскага яскрава сведчыць тое, што ён заявіў аб сабе і як паэт. Пісаў як традыцыйныя вершы, так і вершы ў прозе. У вершах яго закраналася і гістарычная тэматыка.

# ВЯРТАННЕ ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ ЛАСТОЎСКАГА

чы, нядаўна выйшаў Збор яго твораў у трох тамах.

Пра літаратурную ж дзейнасць В. Ластоўскага чытач мог даведацца хіба з перыядычнага друку — у часопісах "Спадчына", "Беларусь", іншых выданнях, а пачатак паклаў Б. Сачанка, апублікаваўшы ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" (22 верасня 1989 года) яго верш "На радуніцу", некалькі навел і "Мае ўспаміны аб М. Багдановічу". Дарэчы, гэтая публікацыя павінна была выйсці раней, але ўсясільны тады Галоўліт, пакуль не быў прыняты Закон аб дру[illegible]аняў яе.

І вось ладн[illegible]'ёмны том "Выбраных твора[illegible]". Зразумела, каб атрымаць уяўленне пра В. Ластоўскага як пісьменніка яркага даравання, трэба ўважліва прачытаць усё прадстаўленае у кнізе. А выбар шыро[illegible].

Адкрываец[illegible] том аповесцямі "Прыгоды Па[illegible]а і Тараса" і "Лабірынты", змешчана шмат апавяданняў і абразкоў. Сярод іх "Лебядзіная песня", якое А. Лойка не без падстаў на тое называе хрэстаматыйным. Твор гэты друкаваўся ў газеце "Наша ніва" ў 1910 годзе. В. Ластоўскі адным з першых у літаратуры задумаўся, як мы гаворым цяпер, над лёсам гараджаніна ў першым пакаленні.

Горад не прыняў Грыгора Лежню, але і вёска яго па сутнасці ўжо адрынула. Ён чужы і там, і тут. Нездарма ў народзе гавораць: "Надломпены пірог не склеіш". Для Лежні спроба вярнуцца ў вёску, няхай толькі ў думках, заканчваецца трагічна. Грыгор, пачуўшы ў горадзе народную песню, на момант страчвае кантроль над сваімі ўчынкамі. Ён забываецца, дзе знаходзіцца. На крылах мрояў пераносіцца ў вёску, да крынічанькі, пра якую спяваў голас з расчыненага акна — Лежня побач падмятаў вуліцу, а потым:

"Цяпер здалося Грыгору, што гэта не на полі стаіць ён, а на парозе хаты сваёй, і маці не пяе, а плача, убіваючыся па ім, а з хмарнага неба падаюць ільдзістыя каплі на твар яму і Ганулі, што, як тая калінка, стаіць пад варотамі і плача. Маці на парозе крычыць нема: "Вярніся, вярніся!" А яму слёзы здушылі горла, і не можа адказаць ёй.

Гэта крычаў хвурман карэтны: "Эй, сцеражыся, сцеражыся!"...

Грыгор не ўсцярогся..."

Гэтае апавяданне меў на ўвазе М. Багдановіч, калі гаварыў: "... на апісаннях нашага шэрага жыцця адбіваецца лірычны пад'ём душы пісьменніка і ўплятае ў вянок нашай літаратуры свежы, яркі цвяток (гл. арт. "Лебядзіная песня")". Высока ацэньвалі творчасць В. Ластоўскага Янка Купала і Цішка Гартны, якія прысвяцілі яму свае вершв "Песня званара" і "Я — асобны свет..."

У кнізе можна пазнаёміцца з легендамі, казкамі, прыпавесцямі. Тут жа змешчаны і ўспаміны В. Ластоўскага, якія дазваляюць лепш зразумець асобныя старонкі беларускай мінуўшчыны, як, для прыкладу, згадкі "Старабеларуская вясковая школа" і "Пагост". Абодва

У рэшце рэшт, як і ў прозе. І болем напаўняўся голас В. Ластоўскага, калі ён задумваўся над лёсам Бацькаўшчыны:

**Чаму зняслаўлена,**
**свабоды любае**
**здавён пазбаўлена,**
**О, Крыўская зямля!**
**Чаму Ты поішся**
**слязьмі гаручымі!**
**Чаму ты поўнішся**
**бядой пякучаю!..**
**Бо Ты,**
**зямля крыві,**
**не валадарная,**
**раба бяздомная,**
**раба пакутная...**

*("О, Крыўская зямля...").*

І як пераканаўча ўдалося В. Ластоўскаму паказаць увесь трагізм становішча Бацькаўшчыны, што апынулася на раздарожжы, а гэта імкнуліся многія выкарыстаць у сваіх мэтах: "Крывёй сыноў Тваіх // куплялі славу гучную // па Грунвальду палёх. // Ад дзікае арды баронячы Заход, // Тваіх байцоў касцісты // вал палёг! // Безыменнаю, а ўсё ж Тваёй крывёй // паліты Хоціма даліны // і па-над Калкаю-ракой // маскальскія нізіны... // Арошаны крывёй Тваіх сыноў // іпранскі край, // Само-Сьера, Рэйн, Ара, По, // сівы Дунай!.."

У "Выбраных творах" апублікаваны таксама драматычны абразок "Адзінокі", шырока прадстаўлена публіцыстыка і крытыка, знайшлося месца і эпісталярнай спадчыне В. Ластоўскага — яго лісты А. Луцкевічу, М. Іваноўскай-Ластоўскай і ажно тры, пасланыя бацьку М. Багдановіча Адаму Ягоравічу.

Да месца ў аднатомніку і "Дадатак", змест якога склалі матэрыялы з дакументальнага зборніка "Вацлаў Ластоўскі: жыццё і грамадская дзейнасць", падрыхтаванага ў Беларускім навука-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы. Сярод іх "Аўтабіяграфічная анкета-нататка", "Хросная метрыка Вацлава Ластоўскага", "Заява следчаму грам. Карнееву зняволенага В. Ластоўскага", а таксама "З ліста Гальяша Леўчыка Івану Луцкевічу", "Ліст Янкі Купалы", "Адам. Саладуха. Вацлаў Ластоўскі" — усё гэта штрыхі да партрэта В. Ластоўскага — пісьменніка, грамадскага дзеяча, чалавека.

А адкрываецца том прадмовай Я. Янушкевіча (ён жа зрабіў і каментарыі) "Вяртанне з нематы", з якой зноў жа паўстае жыццёвы і творчы шлях В. Ластоўскага, яго палітычная і грамадская дзейнасць. Тым самым і на самай справе адбылося "вяртанне з нематы". І, трэба спадзявацца, што яно будзе прадоўжана. У тым жа "Беларускім кнігазборы" з цягам часу павінна выйсці і манаграфічнае даследаванне В. Ластоўскага "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі".

А сёння, сёння на нацыянальнай вуліцы — свята!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# БЫВАЙ, ЧАЛАВЕК СТАГОДДЗЯ!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Гэта было ў маёнтку Крэнгс пад Варшавай. Паранены ляжаў у шпіталі ў Віцебску. "Беларускі" перыяд жыцця і творчасці працягваўся з 1920 па 1930 год. Потым — Масква, а ў 1932 годзе яго разам з сям'ёй адправілі на радзіму, у Фінляндыю. У выніку той "зачысткі" з Масквы высялілі больш за дзесяць тысяч чалавек.

Маё знаёмства з мастаком пачалося ў 1991 годзе, калі я нечакана атрымала адказ з Адэсы ад дырэктара мясцовага музея на маё пытанне аб мастаку А. Ахола-Вало, які ў той час ладзіў сваю выставу ў Адэсе. Мне адказалі, што гэта той мастак, які жыў на Беларусі ў 20-я гады. Не разлічваючы на адказ, я напісала ў Фінляндыю. І вось аднойчы раніцай у аддзеле выяўленчага мастацтва зазваніў тэлефон і Аляксандр Пятровіч сваім незабыўным шчырым голасам паведаміў, што ён — гэта той Ахола-Вало, якога я шукаю. Праз некаторы час атрымала запрашэнне і выехала ў Фінляндыю, каб убачыць неверагодна цікавага чалавека — філосафа, мастака, стваральніка вялікай праграмы-утопіі аб удасканаленні чалавека XX стагоддзя пад назвай "Эвахамалогія". Я ўбачыла цэлыя аркушы тысяч сімвалаў, якія (па задуме аўтара) неабходныя для самаўдасканалення асобы, дзеля кантролю над сваімі эмоцыямі, сваім часам, сваімі пачуццямі. Неверагодна, але факт: філосаф-утапіст Аляксандр Пятровіч Ахола-Вало — частка вялікіх планаў марксісцкіх псіхолагаў-аналітыкаў, якія ў 20-я — пачатку 30-х гадоў працавалі над стварэннем новай праграмы духоўнага бальшавізму. Можна прыпомніць, як гэтыя ідэі паступова ўваходзілі ў сацыялістычнае жыццё: дзіцячыя садзікі, школы-інтэрнаты, лозунг аб тым, што "кухарка павінна вучыцца кіраваць дзяржавай" і г. д. Інстытут маці і дзіцяці, які курыравала сама Н. Крупская, прыцягваў да сваёй работы мастакоў, архітэктараў — усё дзеля ідэі раўнапраўя жанчыны і мужчыны, дзе жанчына павінна працаваць і працаваць на заводах і фабрыках, а яе дзіця выхоўвацца ў спецдамах, лагерах і г. д. Я бачыла эскізы, распрацоўкі, якія выконваў Аляксандр Пятровіч для канкрэтных заказаў.

У горадзе Хяменліне (у Фінляндыі) мясцовыя ўлады далі памяшканні для арганізацыі прыватнага музея Аляксандра Пятровіча, дзе знаходзіцца больш за дзесяць тысяч твораў жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, аўтарам якіх з'яўляецца сам мастак. Кожны дзень, кожная гадзіна яго жыцця на працягу 80 год былі падпарадкаваны справаздачам на спецыяльных аркушах сімваламі: колькі часу затрачваеш на адпачынак, колькі на працу, ежу, каго кахаў, з кім сябраваў. У такіх падліках часта не заставалася месца дзецям, унукам, нават любімым жанчынам, калі іх інтарэсы альбо дзеянні не супадалі. Так, так.

Трагічны і складаны лёс Аляксандра Пятровіча ўяўляе сабой цэлую гістарычную эпоху, якая ўключыла ў сябе першыя смелыя думкі аб нацыянальных фінскіх школах, гуртках, выданнях і інш. Ён быў сведкай таго, як у літаратурных мастацкіх колах старыя погляды акадэмістаў і перасоўнікаў змяняліся на новыя. Нараджаліся новыя стылі — сімвалізм, мадэрнізм, супрэматызм, сюррэалізм, псіхааналітызм. Будучы выключна актыўнай грамадскай асобай, Аляксандр Ахола-Вало прывёз на Беларусь свае меркаванні аб культурна-асветным шляху развіцця грамадства, даказваючы, што ў новых сацыялістычных вымярэннях першыя крокі трэба рабіць у напрамку паляпшэння сацыяльнага становішча. Менавіта яго творчасць найбольш красамоўна даказвае, што ідэі культурнай рэвалюцыі знайшлі сваё адлюстраванне на старонках беларускіх часопісаў і газет. Такіх, як "Работніца і сялянка", "Піянер Беларусі", "Малады араты", "ОРКА", "МЛОТ", "Звезда", "Чырвоная змена", "Плуг", "Беларуская вёска", "Савецкая Беларусь" і інш. За час работы над складаннем спіса твораў Аляксандра Ахола-Вало, які ўключае больш за дзвесце твораў графікі ў жанрах ілюстрацыі, афармлення вокладак, партрэтаў, заставак, канцовак і інш., мною было вызначана аўтарства мастацкага афармлення такіх усім вядомых класічных твораў беларускай літаратуры, "Хвоі гавораць" Кузьмы Чорнага (192[illegible]), "Плынь" Міхайлы Грамыкі (1927), "Угрунь" Андрэя Александровіча (1927), "Табе" Анатоля Вольнага (1927), "Новая зямля" Якуба Коласа (1927), "Ветры буйныя" Паўлюка Труса (1927). Знойдзены брашуры "Чырвоная сялянская вечарына" (1927), "Прасторы" (літаратурны альманах, 1927), "Эскадрылья сусветнай камуны" (1928) і інш., афарміцелем якіх быў малады А. Ахола-Вало. Яго творчы партрэт будзе няпоўным, калі не сказаць аб тым, што ў 1930 годзе ў Мінску на Першай сельскагаспадарчай выставе быў прадстаўлены цэлы павільён, аўтарам праекта якога быў 28-гадовы мастак-архітэктар-вынаходнік. Можна смела сказаць, што не лёс надзяліў яго талентамі. Ён сам шукаў спосабы прымянення сваіх ведаў, сваёй энергіі. Прыкладам можа стаць і тое, што толькі яго ілюстрацыі на лінарыце вытрымлівалі больш за дзесяткі тысяч тыражу. А пасля ад'езду мастака-графіка ў Маскву можна бачыць, як адразу абарваўся жанр ілюстрацыі, што ўжо некалькі год трымаў у сваіх таленавітых і ўпартых руках Аляксандр Пятровіч. Моцна, на ўсё жыццё, ён звязаў з Беларуссю свае творчыя ідэалы, лёс сваёй сям'і (жонка — Алена Нікановіч-Яцэвіч з Віцебска, дзве дачкі нарадзіліся ў Мінску). Нават другое прозвішча — Вало, што па-фінску азначае "прамень", таксама мае прамое дачыненне да той творчай суполкі, якая была зарэгістравана ў Мінску пад назвай "Прамень". Арганізатарам і кіраўніком яе быў Аляксандр Пятровіч Ахола-Вало.

Хай зямля будзе Вам пухам, наш дарагі вялікі гуманіст, барацьбіт за новага чалавека XX стагоддзя!

**Людміла НАЛІВАЙКА.**




КІНАФЕСТЫВАЛЬ «ЛІСТАПАД-97»



**У Мінску адбыўся кінафестываль фільмаў краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Балтыі "Лістапад-97". Яго арганізатары — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарвыканкам, Беларускі Саюз кінематаграфістаў, Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія, МАОЗТ "Кінаканцэрт".**

**НА ЗДЫМКАХ: вядомы літоўскі артыст Данатас БАНІОНІС (злева) і міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр САСНОЎСКІ; прэзідэнт кінафестывалю "Лістапад-97" народны артыст СССР Расціслаў ЯНКОЎСКІ.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

*З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ*

## ВЕЧАРЫНА С. ЯНОВІЧА І Л. ТАРАСЕВІЧА

Нядаўна, падчас паездкі на Беласточчыну, мне давялося пабываць на цікавых імпрэзах, даведацца пра якія, мяркую, добра было б беларускай грамадскасці на Бацькаўшчыне і ўсім беларусам у свеце.

15 лістапада ў Беластоку ладзілася адметная вечарына, галоўнымі прэзентантамі на якой былі знакамітыя Сакрат Яновіч і Лёнік Тарасевіч. Даўняе сяброўства аб'ядноўвае гэтых двух арыгінальных, таленавітых, творчых асобаў. Пісьменнік Сакрат Яновіч і мастак-жывапісец Лёнік Тарасевіч складаюць сапраўдны гонар беларускай культуры ў Польшчы. Абодва таксама вядомыя далёка па-за межамі краіны, у якой жывуць. Кожны мае за сабою плённыя творчыя набыткі. Але гэтым разам яны аб'ядналі свае таленты дзеля адной мэты — прэзентаваць у свеце культуру і прыгажосць зямлі Беластоцкай, дзе абодва нарадзіліся і жывуць цяпер кожны ў сваёй вёсцы: Сакрат — у Крынках, Лёнік — у Валілах.

Вечарына была прысвечана прэзентацыі кнігі Сакрата Яновіча "Мініяцюры" ў італьянскім перакладзе. Кнігу выпусціла выдавецтва "CAVALLINO" ў Венецыі. Аўтар перакладу Крысціана Молдзі Равэна. Пераклад зроблены з ангельскага выдання кнігі ў Лондане ў 1984 годзе. Як вядома, "Мініяцюры" па-ангельску пабачылі свет дзякуючы вядомай у нас прыхільніцы беларускай культуры Шырын Акінэр.

Італьянскае выданне зроблена ў двух моўных варыянтах — італьянскім і ангельскім. На вокладцы — арыгінальны партрэт пісьменніка на фоне родных краявідаў у ваколіцах Крынак. Кніга прыгожа ілюстравана многімі фотаздымкамі пейзажаў Беласточчыны. Аўтарам ілюстрацый з'яўляецца Лёнік Тарасевіч, які нечакана выявіў у сябе талент фотамайстра. Фота зроблены з глыбокаю, затоенаю, шчымліваю любоўю да дарагіх сэрцу мясцінаў. Гэта не бясстрасныя адбіткі жыццёвых рэалій, а як быццам бы мастацкія палотны. Дзіўнае гэта ўспрыняцце свету мастаком-жывапісцам праз аб'ектыў фотаапарата. Сілаю свайго таленту ён надзяляе пейзажы жывою, духоўнай сілаю жывапіснага твора. Вернісаж фотатвораў Лёніка Тарасевіча стаў арыгінальным прадаўжэннем прэзентацыі кнігі, і абедзве прэм'еры ўспрымаліся ў лагічнай сувязі і адзінстве. Абодва аўтары шчыра радаваліся поспеху, а разам з імі і ўсе прысутныя. Публіка была адметная, элітарная, многа студэнтаў і творчай моладзі, інтэлігенцыі як з беларускага, так і з польскага боку. Досціпы Сакрата Яновіча, яго трапныя выразы, тонкі гумар падабаліся прысутным.

Вечарыну ладзіла суполка "Галерэя 113" у будынку факультэта педагогікі і псіхалогіі Беластоцкага універсітэта. Прыемна было бачыць, як ідзе ў шырокі свет наша беларускае слова, наша мастацтва, што яно цікавае і патрэбнае іншым народам. Добра было б, калі б і мы самі шанавалі яго.

**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына".**

# НА СРОДКІ СПОНСАРАЎ

З Лідай звязана жыццё многіх выдатных людзей, у тым ліку літаратараў, публіцыстаў. Гэта Францішак Скарына, Адам Міцкевіч, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Канстанцыя Буйло, Ніна Тарас, Валянцін Таўлай, Ежы Путрамент і іншыя. Іх традыцыі працягваюць сённяшнія пісьменнікі. Яны маюць сваё аб'яднанне пры "Лідскай газеце", у якой друкуюць паэзію, прозу.

А ў мясцовай друкарні выдадзена некалькі кніжак лідчан.

Уладзімір Васько, намеснік рэдактара "Лідскай газеты", у зборнік "На схілах берагоў" уключыў апошнія свае вершы. У іх няма той уяўнай эфектнасці, за якой ганяюцца некаторыя сучасныя аўтары. Піша ён проста, з роздумам пра жыццё.

**Былое адбыло.**
**Што з намі заўтра стане!**
**Мой век адно крыло**
**І так, як гіру, цягне.**
**Запудрылі мазгі**
**Недасягальным раем —**
**І голад абцугі**
**Да горла прыстаўляе.**
**Народ, ты, мой народ,**
**Хоць дбайны ты араты,**
**Збядней твой умалот,**
**Збяднелі нашы хаты.**
**Няўжо мы для сябе**
**Не створым лёс дастойны!**
**Няўжо нас задзяўбе**
**Каршун часоў прыгонных!**

Саўко Іван не з маладых. Усё жыццё адпрацаваў ветэрынарным урачом у саўгасе "Тарнова" на Лідчыне. Цяпер на пенсіі. У трэцюю кніжку паэзіі ўключыў вершы і дзве паэмы, а таксама сатырычныя творы. Шэраг вершаў прысвечаны роднаму краю, прыродзе.

**Самы родны, самы блізкі**
**Мой куточак, дзе я рос,**
**Дзе пазнаў я ад калыскі**
**Пах зямлі і горкі лёс.**

Віктар Бачароў працуе дырэктарам лідскай сярэдняй школы № 13. У многіх яго вершах таксама нямала шчырасці, чалавечага пачуцця да роднай зямлі, роздуму пра дзень сённяшні.

Выдадзена таксама кніжка Лiлiі Сазанавец "Несплансаванае забойства". Гэта апавяданні на розныя тэмы, некаторыя востраеюжэтныя.

Яднае ўсе гэтыя кніжкі адно: яны выдадзеныя на сродкі спонсараў. Рыхтуецца да друку яшчэ некалькі зборнікаў паэзіі.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**




# КОЛАС ВЯРТАЕЦЦА Ў ТАЛЬКУ

115-я гадавіна з дня нараджэння народнага песняра Беларусі Якуба Коласа — ці не найперш свята і для пухаўчан!! І перад вайною, і пасля, да самай смерці ў 1956 годзе, Канстанцін Міхайлавіч разам з сям'ёю летаваў на Пухаўшчыне. Вось тыя вёскі і вёсачкі, што трывалілі, мацавалі музу вялікага творцы, — Загібелька, Талька, Вусце, Падбярэжжа, Балачанка, Беразянка.

Многія творы Якуба Коласа напісаны на гэтай зямлі, многія вершы прысвечаны пухавіцкім вёскам. Упершыню памяць паэта ўшанавана на Пухаўшчыне мемарыяльнай дошкай. Адкрыццё яе адбылося ў час правядзення ў раёне Коласаўскіх дзён. Удзел ва ўрачыстым мерапрыемстве прынялі малодшы сын песняра — Міхась Міцкевіч, старшыня Пухавіцкага райвыканкома Фёдар Супрун, вядомы празаік Генрых Далідовіч, публіцыст Васіль Шырко, вучні Талькаўскай сярэдняй школы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ Ў КРАІНАХ СНД!

**Выконваючы Дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце", рэспубліканскае аб'яднанне "Белпошта" заключыла дагаворы на распаўсюджванне перыядычных выданняў Рэспублікі Беларусь за мяжой. У Расіі, Украіне, Малдове, Літве можна падпісацца на беларускія газеты.**



# У МІНСКУ АДКРЫТЫ ПРЫВАТНЫ МУЗЕЙ СЛАВЯНСКАГА БЫТУ

**Многія гады Мікалай Шаўцоў калекцыяніраваў прадметы народнага быту. І сабраў іх нямала. Не толькі збіраў, але і рэстаўрыраваў, вывучаў гісторыю ўзнікнення таго ці іншага экспаната. Больш за дваццаць гадоў калекцыя экспанавалася ў розных выставачных залах Беларусі, збіраючы мноства цікаўных гледачоў. Гэта былі дні свята для Шаўцова. А потым надыходзілі будні, калі, не маючы месца для захоўвання калекцыі, Мікалай Сцяпанавіч развозіў бясцэнныя экспанаты на захоўванне сябрам і знаёмым да наступнай выставы.**

**Дабіцца выдзялення пад прыватны музей спецыяльнага памяшкання было няпроста. І вось музей адкрыты. Цяпер сюды прыходзяць аматары і знаўцы даўніны, школьнікі і студэнты. Экскурсіі праводзіць сам Мікалай Сцяпанавіч і яго жонка Тамара Іванаўна. Яе рукамі вышыты многія іконы, якія сталі ўпрыгажэннем экспазіцыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мікалай ШАЎЦОЎ праводзіць экскурсію; адзін з куткоў музея.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

## ШТРЫХІ

* * *

**За сэрца нейкі жаль хапае,**
**Такі, што**
**слоў мне не хапае**
**Такіх зары юнацтва розных**
**Высокіх слоў —**
**Са збожжам роўных.**

* * *

**Ў адвечным карагодзе нам**
**На ўсё свой час адведзены:**
**Ўваходзіны,**
**Агледзіны,**
**Заручыны,**
**Адведзіны...**

* * *

**Доўга не чуваць аэрагрому.**
**І прыродзе**
**казачны кур'ёз**
**Мроіцца,**
**Што ўсе аэрадромы**
**Матылькоў прымаюць усур'ёз.**

* * *

**З паэтаў не апошні і не першы,**
**Да іншых воч я прымяраю вершы:**
**А як жа іх ацэніць мой чытач,**
**Быў па якім я некалі ўздыхач!**

## ЗАГАДКА

**То гаваркая, то нямая,**
**То прыніжае, то ўзнімае,**
**То б'е пад дых, што сілы мае,**
**То гладзіць так — аж дух займае.**

* * *

**Без сваёй адзінай**
**Палавінкі дзіўнай**
**Нават і ў натоўпе**
**Часам адзінокі,**
**Нібы аднабокі,**
**Быццам аднавокі**
**Ты, як паўгаловы —**
**Без другой паловы.**

* * *

**Закаханыя. Ад Бога**
**Дар вялікі ў іх:**
**Да душы адзін другога —**
**Абсалютны слых.**

* * *

**Адзін — як прадаўшы пшаніцу,**
**Другі — як прадаўшы зямлю:**
**Збіраўся адзін з ёй жаніцца —**
**Сказала: "Другога люблю".**

* * *

**Падчас, як з неба, — з трэскам**
**стрэс!**
**І ты прыкладваеш кампрэс...**
**Але калі ты з моцным прэсам,**
**Не так цябе звалодаць стрэсам!**

* * *

**Марафонцам стаў ты з часам, —**
**К чорту спрынтэрскі той бег:**
**Мчаўся ты за марай, часта**
**Абганяючы сябе...**

* * *

**Калі мяне пад манастыр**
**Язык — мой вораг**
**Падвядзе,**
**Дык ад бяды мяне тады**
**Язык — мой друг**
**Ці адвядзе!**

* * *

**Не мяшай сабе,..**
**Пасабі сабе,..**
**Павучы сябе,..**
**Выручы сябе!..**

* * *

**Не смей са слабага смяяцца —**
**Паспагадаць яму сумей;**
**Не смей і сільнага баяцца,**
**Тым больш, калі ён подлы змей!**

* * *

**А некалі і я аб тым не ведаў,**
**А зараз — забываю і дарма:**
**Якое шчасце, што мінаюць беды,**
**Якая радасць, што тугі няма!**

* * *

**Нам час вясновы**
**Праветрыў душы**
**І ўсім чынушам**
**Спакой парушыў.**

**Ох, злосць іх душыць**
**І зайздрасць сушыць —**
**На бой крывавы**
**Гатовы рушыць!**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1709.
Падпісана да друку 1.12.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.